Наш адрас у Інтэрнэце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
5 красавіка 2001 г.
№ 14 (510)
Кошт 90 рублёў

## Пасля апраўдання змянілі суддзю

**Учора быў перанесены суд над удзельнікамі шэсця 25 сакавіка Вадзімам Саранчуковым і Сяргеем Мальчыкам.**

Суддзя Ленінскага суда Дзмітрый Дземчанка адклаў разгляд справы і накіраваў пратаколы спадароў Саранчукова і Мальчыка ў Ленінскі РАУС для дапрацоўкі. Серыя судоў над пяццю ўдзельнікамі гарадзенскага Дня Волі пачалася ў панядзелак, 2-га красавіка, калі суддзя Ярашэвіч апраўдаў Святлану Нех. Аднак, адразу пасля апраўдання астатнія чатыры справы былі перададзеныя іншаму суддзі - Дзмітрыю Дземчанку.

Апрача вышэйузгаданых людзей, суд чакае Андрэя Мялешку і Аляксандра Міхальчыка.

**Алена Сіневіч**

## Ці загадае Лукашэнка, каб міліцыянты не біліся?

**«Дзікі прапаршчык» з Гродна, які збіў карэспандэнта газеты «Біржа інфармацыі» Дзмітрыя Ягорава падчас святкавання ў нашым горадзе Дня Волі (гл. мінулы нумар ПАГОНІ) стаў вядомы Аляксандру Лукашэнку.**

Выканаўчы дырэктар Сусветнай кампаніі за свабоду слова «АРЦІКЛЬ 19» Эндру Паддэфат накіраваў Аляксандру Лукашэнку ліст, у якім асуджае факт чарговай праявы самавольства ў дачыненні да работнікаў СМІ з боку беларускай міліцыі. Размова ідзе пра карэспандэнта гарадзенскай недзяржаўнай газеты «Біржа інфармацыі» Дзмітрыя Ягорава. 25 сакавіка ён быў збіты работнікамі міліцыі перад пачаткам мітынгу апазіцыі ў Гродне з нагоды Дня Волі. «Віна» Дзмітрыя заключалася ў тым, што ён сфатаграфаваў шматлікія міліцэйскія машыны для перавозкі зняволеных, што прыбылі да месца правядзення акцыі. У маладога журналіста, якому яшчэ няма 18 гадоў, адабралі фотакамеру і дыктафон, жорстка збілі, а потым адпусцілі, пагражаючы распраВай, калі той паведаміць пра здарэнне. Зараз Дзмітрый знаходзіцца ў бальніцы з цяжкім страсеннем мазгоў.

Гэтае здарэнне, канстатуе «АРЦІКЛЬ 19», - «не першы выпадак затрымання і збіцця журналістаў міліцыяй у Беларусі падчас выканання сваіх прафесійных абавязкаў». Гэтая міжнародная кампанія «асуджае выкарыстанне падобных метадаў з мэтай падаўлення дзейнасці недзяржаўных журналістаў у Беларусі». «Такі пераслед і пагрозы на адрас журналістаў відавочна парушаюць міжнародныя абавязкі Рэспублікі Беларусь гарантаваць свабоду слова, згодна з артыкулам 19 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах», - падкрэсліваецца ў лісце.

«АРЦІКЛЬ 19» заклікае Аляксандра Лукашэнку «загадаць работнікам міліцыі спыніць атакі і запалохванне журналістаў падчас выканання іх прафесійных абавязкаў; неадкладна забяспечыць прыняцце актыўных захадаў па расследаванню нядаўняга інцыдэнту і прыцягнуць да адказнасці вінаватых; гарантаваць функцыянаванне свабоднай і незалежнай прэсы, асабліва напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў».

**Наталля Кулагіна**



НАДВОР'Е

5, 6 красавіка - воблачна, з праясненнямі, часам - ападкі, вецер паўднёвы, 4-9 м/с. Тэмпература паветра 5 красавіка ўначы +2...+7, удзень +7...+12; 6 красавіка ўначы -1...+4, удзень +5...+10.

# Саўчанка стаў старшынём не таму, што ён магілёўскі, а таму, што ён прыстойны!



Уладзімір Саўчанка

**Новым старшынём Гарадзенскага аблвыканкама прызначаны Уладзімір Саўчанка - былы першы намеснік кіраўніка аблвыканкама, які з пачатку лютага, пасля смерці свайго папярэдніка Аляксандра Дубко, выконваў абавязкі кіраўніка абласной «вертыкалі».**

29 сакавіка кандыдатуру Уладзіміра Саўчанкі зацвердзіла пазачарговая сесія Гарадзенскага абласнога Савета дэпутатаў, а напярэдадні быў падпісаны адпаведны ўказ прэзідэнта. Больш таго, Аляксандр Лукашэнка прысутнічаў на ўчарашняй сесіі аблсавета і асабіста прадставіў новага кіраўніка абласной «вертыкалі». Прадстаўляючы дэпутатам новага кіраўніка, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў: ён выбраў Уладзіміра Саўчанку «не таму, што ён магілёўскі, а таму, што ён прыстойны, чаго нельга сказаць пра некаторых іншых кандыдатаў», якія прапанаваліся А.Лукашэнку на гэтую пасаду. Паводле слоў Лукашэнкі, пры вылучэнні людзей на кіруючыя пасады, ён не прымае катэгорыі «свой - чужы». Яшчэ адным важным прынцыпам кіраўнік краіны лічыць ратацыю кадраў.

«Для таго, каб не ствараліся кланы, для таго, каб не фармаваліся мафіёзныя ўтварэнні і структуры», - патлумачыў ён. Лукашэнка заявіў, што патрабавальнасць да кіруючых кадраў будзе ўзрастаць. «Хлеб кіраўніка - гэта нялёгкі хлеб, я цудоўна ведаю гэты хлеб, - сказаў ён. - І яшчэ хачу падкрэсліць тое, пра што я заўсёды гаварыў сумленна і адкрыта: нягледзячы ні на якія па-

> **Уладзімір Саўчанка нарадзіўся ў 1952 годзе ў Магілёўскай вобласці. Скончыў Беларускую дзяржаўную сельскагаспадарчую акадэмію па спецыяльнасці інжынер-землеўпарадчык. Шмат гадоў узначальваў адзін з калгасаў Круглянскага раёна Магілёўшчыны, потым працаваў на пасадзе старшыні Круглянскага райвыканкама і намесніка старшыні Магілёўскага аблвыканкама. У Гарадзенскай вобласці - два гады.**

літычныя кампаніі, у тым ліку і самае важнае, якое пройдзе сёлета, ні ў якім выпадку не пайду на здзелку з сумленнем і ні ў якім выпадку не буду, як гэта мяне часам, заспакойваючы, штурхаюць, каб я аслабіў патрабавальнасць - прэзідэнцкія ж выбары. Што адбудзецца тады? Гэтага не будзе. Трэба весці палітыку сумлення кожны дзень, кожнае імгненне».

Сітуацыя на прамысловых прадпрыемствах Гарадзеншчыны кіраўніка дзяржавы «насцярожвае». «Я хачу шчыра сказаць, што з такой сітуацыяй мірыцца ніхто не будзе, - заявіў ён. - Бліжэйшым часам будзе даручана Мінпраму, ураду разабрацца з гэтымі прадпрыемствамі, паглядзець, як працуюць кіраўнікі». Аляксандр Лукашэнка таксама папярэдзіў, што бліжэйшым часам ён «папросіць даць тлумачэнні» некаторых кіраўнікоў на прадмет: «адкуль такія багацці пры такой мізэрнай заробнай плаце дзяржаўных служачых?».

У заключэнне свайго выступлення А.Лукашэнка нагадаў дэпутатам, што сёлета ўсім давядзецца перажыць «вельмі сур'ёзную палітычную кампанію». «Па сутнасці, гэта выбар далейшага развіцця краіны, - сказаў ён. - Перад людзьмі трэба ставіць дылему: або шлях стварэння, паступовае развіццё, замацаванне лепшага, захаванне дасягнутага, нарошчванне новага праз страшную працу... Або вяртанне да палітычных авантураў з непрадуманымі эканамічнымі эксперыментамі, сацыяльным катаклізмам і да рабавання людзей. Нельга спрашчаць сітуацыю. Менавіта людзям трэба распавядаць сцэнарый развіцця пры адным і сцэнарый развіцця нашай краіны пры другім. Няхай яны і вызначаюць».

**Наталля Кулагіна**

## Рэканструяваць «Брузгі» прапаноўваюць Еўропе

**Праблемы добраўпарадкавання беларуска-польскай дзяржаўнай мяжы былі ў цэнтры ўвагі ўдзельнікаў 4-га пасяджэння Беларуска-польскай міжурадавай каардынацыйнай камісіі па справах трансмежнага супрацоўніцтва, якое прайшло 26-27 сакавіка ў Райгрудзе (Рэспубліка Польшча).**

Як паведаміў на брыфінгу, што прайшоў 29 сакавіка ў Менску, прэс-сакратар МЗС Беларусі Павел Латушка, польскі бок, у прыватнасці, праінфармаваў аб прыняцці ўрадам Польшчы ў чэрвені мінулага года «Стратэгіі сумеснага кіравання мяжой», накіраванай на мадэрнізацыю і пашырэнне памежных пераходаў, размешчаных на польскім баку мяжы («Кузніца Беластоцкая», «Кукурыкі», «Славацічы», «Цярэспаль», «Бабровнікі»). Фінансаванне работаў ажыццяўляецца за кошт сродкаў праграмы Еўрасаюза ФАРЕ. Беларускі бок, у сваю чаргу, праінфармаваў польскі бок пра распрацоўку праграмы развіцця інфраструктуры на мяжы, якая атрымала ўхвалу ўрада Беларусі. У адпаведнасці з гэтай праграмай зараз вядуцца работы па рэканструкцыі ды мадэрнізацыі інфраструктуры на беларускім баку мяжы (памежныя пераходы «Казловічы», «Брэст», «Бераставіца», «Брузгі»). Пры гэтым было адзначана, што асноўны аб'ём работаў ажыццяўляецца за кошт бюджэтных сродкаў Рэспублікі Беларусь.

Камісія прызнала мэтазгодным накіраваць у Еўрапейскую камісію зварот з прапановай наконт стварэння праграмы прыгранічнага супрацоўніцтва Беларусі ды Польшчы.

**Андрэй Асмалоўскі**

## Звяртацца да Бога можна і ў вагончыку

**У нядзелю, першага красавіка, адбылося асвячэнне часовага храма Царквы Сабора Усіх Беларускіх Святых. Богаслужэнне ўзначаліў Уладыка Арцемій.**

Ужо два гады на месцы заснавання царквы ля мікраэна «Вішнявец» стаіць асвечаны крыж. З-за недахопу сродкаў будаўніцтва новага гарадзенскага храма будзе ісці час адкладваецца. Аднак настаяцель царквы айцец Анатоль Ненартовіч спадзяецца, што ў хуткім часе будаўніцтва з дапамогай вернікаў і Бога ўсё-ткі распачнецца.

Днямі да агароджанага ўчастка ля крыжа быў прывезены перааблсталяваны вагончык, які пакуль што і будзе выконваць ролю культавай пабудовы.

**Алена Сіневіч**

## Падвойная сустрэча з прафесарам-юбілярам

**Сёння а 19-й гадзіне ў Гарадскім доме культуры на пасяджэнні гісторыка-культурнага клуба «Паходня» адбудзецца сустрэча з вядомым гарадзенскім даследчыкам беларускай культуры, прафесарам Аляксеем Пяткевічам, прымеркаваная да ягонага 70-годдзя.**

Заўтра з шаноўным юбілярам можна будзе сустрэцца ў Доме-музеі Максіма Багдановіча а 17-й гадзіне.

## Выстава Юрася Мацко ўсё ж адкрыецца

**Персанальная выстава вядомага гарадзенскага мастака-каваля Юрася Мацко «Дзяды», адкрыццё якой 23 сакавіка было фактычна забаронена (гл.артыкул «Як Ірына Працко забараніла Юрася Мацко», у ПАГОНІ N12 ад 22 сакавіка), абласное праўленне Беларускага Саюза мастакоў перанесла на красавік.**

Адкрыццё экспазіцыі адбудзецца заўтра а 18-й гадзіне ў Выставачнай зале БСМ па адрасу: вуліца Ажэшкі,38.

**Адам Гонар**





# «Шамякаў суд», альбо Ведай сваё месца, смерд ...

**У адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, любога грамадзяніна з займаемага жылля можа выселіць суд і ніхто іншы (артыкул 40 ЖК РБ). Але ў слаўным горадзе Астравец гэта яшчэ можа зрабіць і мясцовая прэзідэнцкая вертыкаль. Паўнаўладдзе яе, усім добра вядомае, не мае межаў. Менавіта так выканаўчая ўлада Астравецкага раёна без суда і следства абышлася ў дачыненні да жыхара г.п. Астравец С.Волкава. Яна выселіла спадара Волкава з кватэры, у якую той быў заселены ва ўстаноўленым законам парадку яшчэ ў 1995 годзе.**

Працэс высялення спадара Волкава прайшоў вельмі проста, а гэта значыць, геніяльна. Кватэра яго была проста і без усялякіх там сумневаў і ваганняў апячатана. Зрабіла гэта прадстаўніца мясцовай вертыкалі, начальніца аддзела Астравецкага райвыканкама па кіраванню г.п.Астравец Ф.Блашкавіч. Дапамагаў ёй прадстаўнік мясцовай міліцыі. Тое, што зрабіць гэта мясцовай вертыкальшчыцы было проста, напэўна, зразумела. Ну што можа быць прасцей, чым прычапіць шнурок, прыляпіць паперу і паставіць пячатку, якую ты маеш? А тое, што гэта было зроблена без сумневу і ваганняў, можа сведчыць толькі пра тое, што ўладальнік гэтай самай пячаткі, куды б ён яе ні паставіў, адказнасці за ўчыненыя парушэнні закона несці не будзе. І ўсё гэта пацвердзілі далейшыя падзеі.

Трэба заўважыць, што працэс высялення С.Волкава з ягонай кватэры праз яе апячатванне адбыўся незаконна і без аніякіх там падставаў. У вельмі нахабнай і абуральнай форме, што абражае, так бы мовіць, грамадскую мараль. Службовая асоба сваё чынавенскае свавольства выявіла менавіта тады, калі С.Волкаў праводзіў у апошні шлях роднага яму чалавека, з кім доўгі час пражываў.

Вертыкальная чыноўніца зрабіла замах на адно з важнейшых канстытуцыйных правоў грамадзяніна - на недатыкальнасць яго жылля. У дзеяннях Ф.Блашкавіч ёсць усе прыкметы самаўпраўства і перавышэння службовых паўнамоцтваў. А гэта значыць, прыкметы крымінальна караемых дзеянняў. А за іх, у адпаведнасці з законам, прадугледжана пакаранне аж да пазбаўлення волі.

Спачатку на такі нахабны замах на свае законныя правы грамадзянін С.Волкаў адрэагаваў, як на нейкае непаразуменне. Ён сарваў з дзвярэй сваёй кватэры сімвал чыноўніцкай усёдазволенасці. Аднак неўзабаве Ф.Блашкавіч у суправаджэнні супрацоўніка міліцыі і пры дапамозе пагрозаў ізноў апячатала кватэру. Прымусіла грамадзяніна пакінуць яе. Але нават і пасля ўсяго гэтага С.Волкаў не мог дапусціць думкі пра тое, што ўсё гэта робіцца ў дачыненні да яго ўсур'ёз. Таму адразу накіраваўся да старшыні Астравецкага райвыканкама А.Кавалькі. Ад самага высокага раённага кіраўніка грамадзянін Волкаў двойчы атрымаў звычайную адпіску ў стылі «я яму пра Фаму, а ён мне пра Ярому». Тады і зразумеў ўсю сур'ёзнасць свайго становішча.

Далейшы шлях па абароне сваіх правоў у зняважанага грамадзяніна ляжаў у мясцовую пракуратуру. Але і тут непахісныя абаронцы закона ад разгляду справы ўхіліліся. Адфутболілі спадара Волкава ў суд.

Справу ў судзе Астравецкага раёна разглядаў суддзя Г.Янкоўскі, і, трэба думаць, разглядаў уважліва. Бо на разгляд не пайшло ажно тры дні. У суддзі было дастаткова часу, каб добра падумаць, ўзважыць усе «за» і «супраць», каб прыняць абгрунтаванае і законнае рашэнне. Але, напэўна, у суддзі не хапіла ні мужнасці, ні смеласці, каб зрабіць гэта. Бо ён адмовіў грамадзяніну Волкаву ў яго бясспрэчным праве на жыллё. Суддзя Г.Янкоўскі заплюшчыў вочы на відавочныя грубыя і крымінальна караемыя дзеянні службовай асобы. Іншымі словамі, і ў Астравецкім судзе С.Волкаву недвухсэнсоўна далі зразумець: маўляў, куды і на каго ты прэш, Волкаў? Ведай сваё месца і не рыпайся.

Зразумела, што з такім рашэннем суддзі Г.Янкоўскага грамадзянін С.Волкаў не пагадзіўся. Абскардзіў яго ў касацыйным парадку ў Гарадзенскі абласны суд. І трэба заўважыць, да гонару судовай калегіі абласнога суда ў складзе М.Кічкі, А.Калесніка, З.Нікольскай, быў пакладзены канец «шамякаваму суду». Незаконнае і неабгрунтаванае судовае рашэнне было адменена. Не дапамагло суддзі Г.Янкоўскаму, што не дапусціў ён да ўдзелу ў разглядзе дадзенай справы аўтара гэтага артыкула ў якасці прадстаўніка інтарэсаў грамадзяніна Волкава.

Кропку ў гэтай справе, канечне, ставіць яшчэ рана. Бо раённая вертыкаль наўрад ці пагодзіцца са сваёй паразай. Але трохмесячныя блуканні без прытулку грамадзяна С.Волкава ў пошуках закона нарэшце скончыліся. Цяпер ён мае пэўнае права сарваць сімвал здзеку і самадурства з дзвярэй сваёй кватэры. Больш не трэба спадару Волкаву выпрабоўваць свой лёс у самым «гуманным» і «справядлівым» судзе на свеце. Ён рэалізуе сваё законнае права на самаабарону ўласных грамадзянскіх правоў (артыкул 13 ГК РБ). І будзе мець рацыю.

**Мікалай Уласевіч,**
**вёска Варняны Астравецкага раёна**

# Сямён Домаш стварае і кансультуецца...

**Людзі стаміліся чакаць лепшай долі. Таму назіраецца сапраўдная цікаўнасць выбаршчыкаў да асобаў магчымых кандыдатаў у прэзідэнты на выбарах-2001.**

Пра гэта заявіў каардынатар Каардынацыйнай Рады «Рэгіянальная Беларусь» Сямён Домаш. На мінулым тыдні ён па запрашэнні старшыняў мясцовых дэмакратычных палітычных партыяў, грамадскіх аб'яднанняў і прафсаюзных арганізацыяў наведаў Маладзечна, Барысаў і Брэст. У гэтых гарадах створаныя групы падтрымкі Сямёна Домаша як магчымага кандыдата ў прэзідэнты. На Берасцейшчыне ўзнікла аналагічная абласная структура.

Групы падтрымкі кандыдатуры гарадзенскага палітыка ўжо ўтвораныя ў больш як 60-ці гарадах, раённых цэнтрах і мястэчках Беларусі.

**Уладзімір Кавалёў**

# Дзень яднання па-смаргонску

**Па-свойму адзначылі так званы «Дзень яднання Беларусі з Расеяй» патрыёты ў Смаргоні. Ноччу з першага на другое красавіка яны вывесілі ў цэнтры горада на дрэвах дзесяць бел-чырвона-белых сцягаў. Улада адразу загадала зняць іх, але два сцяжкі зняць не ўдалося і яны трымцяць на ветры вось ужо які дзень.**

Першага і другога красавіка патрыёты адкрыта раздалі прахожым у Смаргоні каля пяці тысяч улётак. Сярод іх - артыкул Зянона Пазьняка «Унутраная акупацыя», «Амерыка для амерыканцаў», а таксама «Беларусь не аддамо» і «Вон расейскіх акупантаў».

**Янка Крывіч**

# Хто адкажа за зніклых людзей?

**У суботу 31 сакавіка з 11 да 12 гадзін на цэнтральным рынку Слоніма сябры моладзевага руху ЗУБР правялі акцыю, прысвечаную лёсу зніклых людзей. Удзельнікі пікету трымалі партрэты вядомых зніклых людзей: Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Зміцера Завадскага. Сярод прахожых распаўсюджваліся ўлёткі, на якіх з аднаго боку былі фотаздымкі зніклых з пытаннем: «Кто ответит за пропавших людей?», а з другога боку - заклік «Думай! Решай! Действуй! Будь ЗУБРОМ!».**

За некалькі дзён да акцыі па ўсяму гораду з'явіліся надпісы «Где Захаренко?», «Где Гончар?», «Где Завадский?». Улёткі з інфармацыяй і пытаннем пра лёс зніклых таксама распаўсюджваліся ў навучальных установах Слоніма.

Слонім - чарговы горад, дзе прайшла акцыя ЗУБРА пра напамін аб лёсах вядомых людзей. Да гэтага былі Менск, Віцебск, Барысаў ды іншыя гарады. Улёткі на гэтую тэматыку былі раскіданыя ў тэатрах Менска, Гродна, Магілёва, у буйнейшых ВНУ сталіцы. **Графіці з пытаннямі да ўлады «ГДЕ?»** можна ўбачыць у некалькіх дзесятках гарадоў Беларусі. Спецыяльны выпуск газеты «Наша Свобода» «Кто ответит за пропавших людей?» быў раздадзены грамадзянам Беларусі накладам некалькі сотняў тысяч паасобнікаў.

# Стан беларускамоўнага школьніцтва на Гарадзеншчыне

| Дынаміка зменаў удзельнай долі вучняў, якія навучаліся на беларускай мове (у працэнтах) | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1994/95 | 1995/96 | 1996/97 | 1997/98 | 1998/99 | 1999/2000 | 2000/2001 |
| 50,7 | 50,8 | 51,3 | 51,5 | 51,0 | 50,3 | 48,3 |
| **Дынаміка прыёму дзяцей для навучання на беларускай мове (у працэнтах)** | | | | | | |
| 86,9 | 61,4 | 50,8 | 44,1 | 37,2 | 37,0 | 34,1 |

**Прайшло больш як пяць гадоў пасля сумнавядомага травеньскага рэферэндума 1995 года. Ідзе ціхае планавае разбурэнне беларускамоўнага школьніцтва.**

Звернем увагу на лічбы, пададзеныя ў табліцы. У горадзе Гродна больш за 300 тысяч жыхароў, але ўжо другі год як няма ніводнага падрыхтоўчага класа па беларускамоўнаму навучанню.

Гэта адбываецца на нашых вачах, з дапамогаю многіх бацькоў. Пераканаць іх аддаваць дзяцей у беларускія класы вельмі цяжка. Многія не бачаць перспектывы атрымання сярэдне-спецыяльнай і вышэйшай адукацыі на беларускай мове. Няма ў Беларусі ні нацыянальнага гуманітарнага універсітэта, ні тэхнічнага. Стварэнне беларускамоўных групаў (плыняў) сустракае шалёнае супраціўленне з боку кіраўніцтва ВНУ.

Поўныя прыгаршчы ў магілу Беларушчыны сыпанулі і «нашыя» чыноўнікі. Я прыгадваю выступ на V з'ездзе ТБМ у красавіку 1997 года міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь В.Стражава, які гаварыў, што так многа робіцца для развіцця беларускамоўнага насельніцтва. А на самой справе, калі дакументы «аб акрэдытацыі і ліцэнзаванні» да 1997 года ішлі за подпісам В.Стражава на беларускай мове, дык пасля 1997 года толькі на рускай - «перестроился» спадар Стражаў.

А гэта прывяло да таго, што навучальныя ўстановы пасля 1997 года рыхтуюць дакументацыю для акрэдытацыі толькі на рускай мове. Такім чынам была задушана гэтая галіна беларускамоўнага справаводства па ўсёй Беларусі. Што рабіць? Напэўна, нейкім чынам змусіць чыноўніка выконваць Канстытуцыю. Таму што Канстытуцыя (артыкул 50) гарантуе кожнаму грамадзяніну Рэспублікі Беларусь выбар мовы навучання. Чыноўнік - гэта слуга народа, але служыць народу ён не хоча. Паспрабуйце ўзяць дакеду на беларускай мове. Вам адкажуць, што «у нас оба языка равны». У Кодэксе Рэспублікі Беларусь «Аб адміністрацыйных правапарушэннях» ёсць артыкул 172.2 «Парушэнне заканадаўства аб мовах». Я не чуў і не чытаў, каб хто-небудзь з чыноўнікаў атрымаў спагнанне за парушэнне гэтага артыкула.

Паважаныя браткі-беларусы, давайце будзем, у першую чаргу, паважаць сябе, законы і нідзе не ісці на саступкі. Давайце ўсюды, дзе мы сустракаемся з чыноўнікамі любога рангу, патрабаваць размаўляць, пісаць лісты, даваць даведкі толькі на беларускай мове.

**Аляксандр Місцюкевіч,**
**Старшыня абласной рады ТБМ імя Ф.Скарыны**




# У кабінетах вылучаць, на сходах падтрымаюць

**Афіцыйныя рэгіянальныя газеты пераконваюць, што цяпер няма больш важнай задачы, чым выбары дастойных прадстаўнікоў у маючы адбыцца II Усебеларускі народны сход. Якая там пасяўная, малоко з мясам!**

20 сакавіка пра гэта гаварылася на пасяджэнні спецыяльнага абласнога камітэта пад кіраўніцтвам намесніка старшыні выканкама Марыі Біруковай. Яна вызначыла асноўныя кірункі дзейнасці. Быў агучаны план работы, парадак вылучэння прадстаўнікоў ад працоўных калектываў на раённыя і гарадскія сходы. Там прагаласуюць за вылучэнне самых-самых годных пасланцоў у Менск, якім будзе дазволена падыхаць адным паветрам з горача любімым А.Г.

Сход прэзідэнцкая наменклатура збірае ў год выбараў кіраўніка дзяржавы. Адчуваеце сур'ёзнасць моманту? Лукашэнка зробіць справаздачу за сем гадоў свайго кіраўніцтва дзяржавай. Прысутныя стоячы зацвердзяць даклад, назавуць яго гістарычным і поўным геніяльных думак. Нейкі «прадстаўнік народа» ўзлезе на трыбуну і ўзрушана прапануе: калі так выдатна жывем, то дружна падтрымаем нашага прэзідэнта на выбарах-2001. Іншы экзальтаваны таварыш пойдзе далей: а навошта выбіраць, даручым гэтую справу нашым дэпутатам-палатачнікам. Яны зацвердзяць, каго трэба, і заканадаўчую базу адпаведную падвядуць. А то і Канстытуцыю можна рэферэндумам перагледзець і роднага Аляксандра Рыгоравіча пакінуць пажыццёвым кіраўніком і абаронцам нас, бедных і неразумных...

Сёння галоўнае для «вертыкалі» - падабраць на сход надзейных удзельнікаў. Каб галасавалі, як трэба, без выбрыкаў. Таму і падключана мітуслівая дзяржаўная машына з яе планамі і парадкам вылучэння самых дастойных. Не сумнявайцеся, што такія будуць знойдзены. Хутка іх прозвішчы з'явяцца ў дзяржаўных СМІ. Гэтая работа шпарка вядзецца ў выканкамаўскіх кабінетах.

**Уладзімір Кавалёў**

# Дэлегатаў абіраюць чыноўнікі

**У Мастах утвораны раённы арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні II Усебеларускага народнага сходу, які адбудзецца ў траўні па загаду А.Лукашэнкі.**

У склад раённага аргкамітэта ўвайшло 25 асобаў. Нягледзячы на тое, што маючае адбыцца мерапрыемства мае шыльду народнага, у арганізацыйным камітэце няма ніводнага прадстаўніка ні рабочых, ні сялянаў - спрэс чыноўнікі з райвыканкама, а кіруе аргкамітэтам сам старшыня Аляксандр Кісялёў.

**Міхась Карпейчык**

# Мурад Чхаідзэ: «Нас «душыць» настальгія па радзіме...»

**Год таму ў Гродне ўтварылася грамадскае аб'яднанне «Грузін». З нагоды юбілею наш карэспандэнт сустрэўся з кіраўніком гэтай арганізацыі Мурадам Чхаідзэ.**

***- Мурад Георгіевіч, якія асноўныя накірункі дзейнасці Вашага аб'яднання?***

- Нацыянальна-культурны накірунак, дапамога бежанцам з Абхазіі...

***- У мінулым годзе ў Гродне праходзіў III фестываль нацыянальных культураў Беларусі, і ўпершыню грузінская дыяспара ўзяла ў ім ўдзел...***

- Мы не задаволеныя сваёй падрыхтоўкай да гэтага свята ў мінулым годзе. На наступны фестываль плануем паказаць сваю нацыянальнасць ва ўсёй красе.

***- Вядома, што ў школе N9 існуе грузінскі клас. Якія дысцыпліны там вывучаюць вашыя дзеці?***

- Па-першае, гэта не клас, а нядзельная школа, заняткі ў якой праходзяць па суботах і нядзелях. Выкладаюць дзецям грузінскую гісторыю, геаграфію, мову і культуру. Навучаецца там 22 чалавекі.

***- Каўказцы - не рэдкасць на гарадзенскіх вуліцах. Больш шасць з іх - грузіны?***

- Не, грузінаў у Гродне вельмі мала. Дзесьці каля 60-ці чалавек. Проста гарадзенцы часцяком думаюць, што калі ў чалавека каўказскае аблічча - ён абавязкова грузін. А на самой справе, ён можа быць афганцам, курдам, азербайджанцам, чачэнцам.

***- Мурад, а як Вы патрапілі сюды?***

- Я апынуўся ў Гродне выпадкова. З маёй сям'ёю сябравала беларуская. Часта прыязджала да нас у Грузію. Госці з Беларусі адпачывалі на Чорным моры. І аднойчы запрасілі мяне ў Гродна. Я прыехаў сюды, паступіў у Сельскагаспадарчы інстытут. Пасля пайшоў працаваць у калгас «Прагрэс» інжынерам па забеспячэнні. Ажаніўся і застаўся ў Гродне.

***- Мурад Георгіевіч, з якімі праблемамі сутыкаюцца ў Гродне грузіны?***

- Атрыманне статусу ўцекача і ўладкаванне на працу. Па перапісу насельніцтва ў 1989 годзе ў Беларусі было тры тысячы грузінаў. Зараз колькасць грузінаў на Беларусі значна скарацілася. Прадстаўнікі маёй нацыянальнасці з'язджаюць на радзіму цэлымі сем'ямі. Папершае, з-за настальгіі па радзіме, якая моцна нас «душыць». А па-другое, з-за цяжкага фінансавага становішча і немагчымасці ўладкавацца на прыстойную працу. Дзесьці праз восем гадоў у Гродне застанецца каля дзесяці грузінаў.


Старшыня грамадскага аб'яднання «Грузін» Мурад Чхаідзэ

***- А Вы асабіста плануеце з'ехаць на радзіму?***

- Канечне, праз гадоў пяцьшэсць я абавязкова з'еду.

***- А калі ў Беларусі да ўлады прыйдуць новыя палітычныя сілы?***

- Калі я ўбачу, што тут можна добра жыць, то, магчыма, застануся. Але ж калі чалавек старэе, ён хоча ўвагі да сябе сваякоў і абавязкова хоча на радзіму. А тут гэтага няма. Нашыя дзеці не растуць на Беларусі такімі, якімі яны выраслі б у Грузіі. Яны трошкі кепскія, эгаісты. Вялікі ўплыў на іх мае атачэнне.

***- Мурад, грузіны ўдалечыні ад радзімы прытрымліваюцца сваіх традыцыяў ды звычаяў?***

- Абавязкова. Мы вельмі цэнім нашыя традыцыі, у Грузіі на іх усё пабудавана. І таму ў нас ніколі не было савецкай улады. Мы ведалі, што саветы - гэта пачварства, а КПСС - супраць традыцыяў. Традыцыі складаліся стагоддзямі, а савецкую ўладу прыдумаў Ленін і Сталін. Для грузінаў тое, што будзе супраць традыцыяў, - заўсёды будзе чужым.

***- Вы не забыліся на смак грузінскай нацыянальнай кухні і віна?***

- Наконт грузінскай кухні - не, не забыўся. Таму што ў Гродне жывуць цудоўныя грузінскія жанчыны, якія гатуюць грузінскія стравы на вышэйшым узроўні. А віна я даўно ўжо не ўжываў. Мяжа зачынена. Тое ж, якім гандлююць тут, пад лэйблам «грузінскае», не п'ю - гэта атрута. На Беларусі лепш піць гарэлку: яна якасная і танная.

***- Вы жывяце ўжо шмат часу на Беларусі. У чым галоўнае адрозненне грузінаў ад беларусаў?***

- Грузіны - рамантыкі. Мы любім рабіць шыкоўныя жэсты. Напрыклад, падараваць жанчыне мільён ружаў, патраціць усе грошы і потым не шкадаваць пра гэта. У Гродне я яшчэ такога не бачыў. А калі нехта так і зробіць, то яго абавязкова будзе лаяць жонка, і ён пра гэта пашкадуе. А грузіны скажуць: «Глядзі, як ён зрабіў. Які ён добры чалавек, грошай не пашкадаваў!

Гутарыў
**Алесь Зарэмбюк**

# Самых прыгожых ужо вызначылі

**Амаль пяць гадзін доўжыўся ў суботу, 31 сакавіка, кастынг сярод прэтэндэнтак на ўдзел у фінале конкурсу «Каралевы Прыгажосці Міс Гродна-2001».**

Прыгажуням давялося дэфіліраваць па малой сцэне Аблдрамтэатра ў вечаровых убраннях, купальніках і расказаць пра сябе прадстаўнікам журы. Пасля доўгіх дэбатаў журы адабрала з амаль сотні дзяўчатаў дваццаць дзве. Акрамя гарадзенак, рыхтавацца да фіналу конкурсу будуць жыхаркі Ваўкавыска, Смаргоні і Навагрудка.

Ператвараць дзяўчатаў «з папялушак у прынцэсы» цэлы месяц будуць балетмайстар, харэограф, візажыст-цырульнік ды іншыя спецыялісты. У выніку да фіналу, які адбудзецца 30 красавіка дойдуць 16 красуняў.

**Ганна Макоўская**

# Каложа стаіць надзейна?

**Увесну прыходзіць «вялікая вада», а з ёю і экстрэмальныя нечаканасці з рачнымі берагамі: затапленні, падмывы, а то і абрушэнні высокіх берагоў у ваду. І хоць сёлета паводка Гарадзеншчыне не пагражае, лёс схілу Каложскай гары і Барысаглебскай царквы не пакідае нас турбаваць.**

Узровень вады ў Нёмане сёння нават ніжэйшы, чым сярэдні паказчык на гэты час. Аднак, хто ведае, як цякуць падземныя крыніцы і рэчкі пад гарой? Што робіцца сёння для ўмацавання схілу Каложскай гары і захавання старажытнага храма? Паводле словаў дырэктара Дырэкцыі рэканструкцыі Віктара Качанава, завершаны першы этап умацавальных работаў. Як раней пісала ПАГОНЯ, напрыканцы мінулага года з бюджэту былі выдаткаваныя грошы. На іх была нанята будаўнічая брыгада з тэхнікай з Менска, якая і выканала работы па ўмацаванні верхняга поясу гары.

Былі зробленыя 23 адтуліны пад апорнай сценкай Каложы, куды заліці бетон. Гэтыя 23 палі («сваі») і павінны пакуль што падтрымліваць сценку. Як сцвярджаюць у Дырэкцыі, работа зробленая грунтоўна і палі надзейныя.

Аднак, пытанне комплекснай рэканструкцыі Каложскай гары застаецца адкрытым. Неабходна рабіць падобныя палі ды супрацьпаводкавую сценку ля падэшвы гары. Пра фінансаванне гэтай часткі праекта пакуль нічога не чутно.

**Алена Сіневіч**

# Рускія іконы застануцца ў Беларускім Нацыянальным музеі

**Адзінаццаць праваслаўных іконаў, два крыжы і распяцце былі затрыманыя на беларуска-польскай мяжы супрацоўнікамі гарадзенскай рэгіянальнай мытні разам з УКГБ. Усе рэчы незаконным шляхам вывозіліся з Расеі на Захад удзельнікамі польска-беларуска-расейскай злачыннай групоўкі.**

Гарадзенскія мастацтвазнаўцы датуюць знаходкі пачаткам-канцом XIX стагоддзя. Самым каштоўным прызнаны абраз «Жанчыны Міраносіцы» - ён лепшы па выкананні ды і захаваўся добра.

- Некаторыя з іконаў выкананыя з адступленнем ад канонаў, - лічыць Ніна Лешчанок, галоўная захавальніца фондаў Гарадзенскага музея гісторыі і рэлігіі, - таму нельга казаць, што канфіскаваныя рэчы ўяўляюць сабою вельмі вялікую каштоўнасць. Але ў Заходняй Эўропе нават за такія рэчы плоцяць вялізныя грошы. У Гродне кожны абраз быў ацэнены сумай ад 130 да 200 тысяч беларускіх рублёў.

Іконы будуць выступаць у якасці рэчавых доказаў у судзе. Пасля іх перададуць у Нацыянальны музей Беларусі.

**Юлія Дарашкевіч**

# Опіуму для народа пабольшае

**Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў улады звярнулі пільную ўвагу на ідэалагічную апрацоўку насельніцтва. Відаць, Зімоўскага і Казіяткі недастаткова, каб зусім засмеціць галовы людзей ды ўвесці ім у вушы, што толькі Рыгоравіч пабудуе ім светлую будучыню і дасць заможнае жыццё, як толькі збудуецца «рынкавы сацыялізм».**

**Паколькі «шчаслівы» беларускі народ у цягніках і на працы разгадвае мудрагелістыя крыжаванкі, а на вёсцы з дзесяці хатаў у адной выпісваюць мясцовую газету, то на апошнюю была звернута пільная ўвага. Як паведаміў дасведчаны супрацоўнік райвыканкама, усе раённыя газеты вобласці да ліпеня бягучага года павінны перайсці на трохразовы выхад на тыдзень. Зараз ідзе пошук фінансаў, і яны абавязкова будуць знойдзеныя.**

**Міхась Карпейчык**

# Смецце каля вашага пад'езда...

**На мінулым тыдні праходзіла каля аднаго з інтэрнатаў у Ленінскім раёне. Давялося назіраць, як напаўняецца смеццем машына. Мяне ўразіла, як неахайна працаваў кіроўца гэтага спецаўтамабіля. Частка поліэтыленавых пакетаў, паперы, пластыкавых кілішкаў не трапілі па месцу прызначэння, а ў хуткім часе былі разнесеныя ветрам.**

Хто павінен збіраць смецце, якое не патрапіла ў машыну для смецця?

На гэтае пытанне даў адказ начальнік спецаўтагаспадаркі вытворчага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі Валерый Лісавец:

- Смецце, што не трапіла ў машыну пры загрузцы, павінен збіраць вадзіцель.

Валерый Лісавец дадаў, што тым, хто назірае, як вуліцы засмечваюць ягоныя падначаленыя, трэба тэлефанаваць у спецаўтагаспадарку начальніку эксплуатацыі (тэл.31-62-78) або дыспетчару (для запісу ў кнігу скаргаў) на нумар 31-21-46.

**Вольга Астроўская**

# Стогадовы ясень унесены ў сьпіс помнікаў прыроды

Стогадовы пэнсыльванскі ясень, які расьце ў старажытным парку ля вёскі Жамыслаўль Івейскага раёну ўнесены ў сьпіс помнікаў прыроды рэспубліканскага значэньня. Ясень, радзіма якога Амэрыка, быў высаджаны па ўказаньні тагачаснага ўладальніка парку графа Ўмястовіча і зараз зьяўляецца адзіным прадстаўніком гэтага віду дрэваў у Беларусі.

**Ул. інф.**

# Фантазіі сямейства Пярвухіных

**Першага красавіка ў музеі Абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці адкрылася супольная выстава народных майстроў Пярвухіных «Фантазія і майстэрства» з нагоды 50-годдзя лідара творчага сямейства - Ігара Пярвухіна.**

На экспазіцыі, апроч мастацкіх вырабаў са скуры, прадстаўлены жывапіс Таццяны Пярвухінай, а таксама вырабы з лазы яе бацькі Аляксея Рыгоравіча. За апошнія гады дасягнуў значных поспехаў у апрацоўцы скуры сын Ігара і Таццяны - Аляксей.


Дэкаратыўная кампазіцыя Пярвухіных

Сямейства Пярвухіных праславілася ў суседняй Польшчы выкананнем памятных медалёў з выявамі Мальбарка і Сопата. Зразумела, не меншай папулярнасцю карыстаюцца сярод аматараў народнай творчасці і медалі з выявамі роднага Гродна. Зусім нядаўна сямейства Пярвухіных атрымала эксклюзіўны заказ на афармленне парфумы.

**Севярын Друцкі**

# Кватэру за...100 даляраў?

**На мінулым тыдні пачалося пагашэнне першага выпуску аблігацыяў дзяржаўнага валютнага займу (20.03.2000-20.03.2001 гадоў). Яно будзе доўжыцца да 26 верасня 2001 года. Неабходна будзе пагасіць 4192 «размешчаныя» аблігацыі па 100 даляраў ЗША кожная. Наогул жа Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь выпусціла ў абарачэнне 10 000 аблігацыяў на агульную суму адзін мільён даляраў ЗША. Такім чынам, удалося рэалізаваць толькі дзве пятыя ад абвешчанага аб'ёму эмісіі.**

Адпаведна дадзеным Аддзела метадалогіі ды эмісіі дзяржаўных каштоўных папераў Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь, апрача пагашэння аблігацыяў па наміналу, неабходна будзе таксама разлічыцца па грашовых і рэчавых выйгрышах. Так, за перыяд абарачэння аблігацыяў было праведзена чатыры тыражы выйгрышаў: 20 чэрвеня, 20 верасня, 20 снежня 2000 года і 20 сакавіка 2001 года. У кожным тыражы ўдзельнічалі ўсе рэалізаваныя да правядзення дадзенага тыража аблігацыі дзяржаўнага валютнага займу. Уладальнікі аблігацыяў, што купілі ўказаную дзяржаўную каштоўную паперу да першага тыража, маглі «атрымаць» выйгрышы ў кожным з чатырох тыражоў па дзесяць працэнтаў гадавых. Паводле інфармацыі Міністэрства фінансаў Беларусі, агульная сума грашовых выйгрышаў па выніках чатырох тыражоў склала 19 550 даляраў ЗША.

Адначасова з апошнім тыражом (20 сакавіка 2001 года) праводзіўся тыраж рэчавых выйгрышаў. Рэчавымі выйгрышамі па аблігацыях дзяржаўнага выйгрышнага валютнага займу Беларусі (першага выпуску) сталі 20 тэлевізараў «Гарызонт». Выдача выйгрышаў будзе адбывацца ў Гандлёвым доме «Гарызонт» да 26 верасня 2001 года пасля пагашэння аблігацыяў у філіялах ААТ «Ашчадны банк Беларусбанк».

Але і гэта яшчэ не ўсе выйгрышы. Справа ў тым, што пры пагашэнні аблігацыяў дзяржаўнага валютнага займу уладальніку выдаецца верхняя частка аблігацыі, што змяшчае серыю і нумар. Гэтую частку аблігацыі неабходна захоўваць. Бо яна будзе ўдзельнічаць у розыгрышы кватэраў (на выбар, у Рэспубліцы Беларусь) пасля завяршэння ўсяго займу на суму 10 мільёнаў даляраў ЗША.

Канечне, за 100 даляраў ЗША у пазыку на год дзяржаве атрымаць кватэру - гэта здорава. Ды вось незадача: калі ж рэалізуюць усе аблігацыі? «Шлях» жа ад 419 200 даляраў ЗША да 1 000 000 даляраў ЗША яшчэ цалкам не пройдзены. А трэба рэалізаваць аблігацыяў на суму 10 мільёнаў даляраў ЗША.

У роздуме і Міністэрства фінансаў Беларусі. Зараз яно праводзіць аналіз вынікаў першага выпуску дзяржаўных выйгрышных валютных аблігацыяў Рэспублікі Беларусь. Як нам стала вядома з дакладных крыніцаў, Міністэрства фінансаў яшчэ не прыняло канчатковага рашэння: наконт правядзення другога выпуску дзяржаўных выйгрышных валютных аблігацыяў Беларусі наогул, а тым больш наконт канкрэтнай даты выпуску і яго параметраў.

4192 уладальнікі ўжо рэалізаваных аблігацыяў чакаюць, «напэўна», хутчэйшага рашэння Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь. А як жа інакш?

**Максім Жмінда**

# Як КГБ папаўняе бюджэт

**Мільён даляраў у выглядзе залатых пярсцёнкаў, плацінавага лому і навюткіх «мэрсаў» паклалі гарадзенскія чэкісты ў кішэню нашай дзяржавы за апошнія пятнаццаць месяцаў. Пра гэта паведамілі на прэс-канферэнцыі гарадзенскага УКГБ, прысвечанай кантрабандзе.**

Чаго толькі ні вязуць нелегальна праз нашу мяжу - зброю, фальшывыя грошы, каштоўныя металы, нават людзей. Ювелірныя вырабы хаваюць у патайніках машынаў, у бардачках, наркотыкі - у адзенні, на целе, іконы - ў пакетах, якія хаваюць у сціртах сена і, пардон, у кучах гною.

На экране - звычайная паштовая пасылка. У скрыні - пакецікі з ежай, кава.

- Такім чынам на Беларусь трапляюць наркотыкі з Нігерыі, - тлумачыць Віктар Вягера, намеснік начальніка гарадзенскага УКГБ. У слоічках з-пад кавы - трыста грамаў гераіну, схаваных пад падвойным дном. Але больш за ўсё наркотыкаў вязуць да нас з Польшчы. Гэта сінтэтычныя псіхатропныя сродкі - амфетамін і экстазі. Усяго за мінулыя паўтара года было знішчана больш за 15 тысяч дозаў наркотыкаў, якія прызначаліся для гарадзенцаў.

Наступны кадр - сем granaтамётаў, разабраных і акуратна абгорнутых, а таксама - чатыры кілаграмы пластыду, 20 трацілавых шашак, 26 электрадэтанатараў і два пускавыя прыстасаванні. Усе выбуховыя рэчывы заводскай вытворчасці, «гатовыя да ўжывання». У гэтай кантрабандзе былі задзейнічаныя дзве міжнародныя групоўкі, пяць чалавек з Беларусі, Літвы і Расеі.

Маленькі хлявок на беларуска-літоўскай мяжы здалёк нагадвае звычайную прыбіральню. У чатырох драўляных сценах хавалася ажно 97 чалавек. «Жывую кантрабанду» выводзяць на свежае паветра і ўкладваюць штабелямі на зямлю. Зараз гарадзенская мяжа - канцавы пункт іх транзіту на Захад. За мінулых пятнаццаць месяцаў затрымана 211 нелегальных мігрантаў, распачата 18 крымінальных справаў, 37 арганізатараў ужо адбываюць пакаранне.

31 падробную купюру вартасцю па 100 даляраў кожная давялося знішчыць. Гэтыя фальшыўкі патрапілі да нас з Літвы. Яны выраблены так якасна, што нават эксперты не маглі іх выявіць. Партыю фальшывых грошай суправаджалі тры гранаты і сотня баявых набояў. Увогуле з пачатку 2001 года было распачата дзевяць крымінальных справаў па незаконным вывазе валюты, каштоўных металаў і ювелірных вырабаў. На карысць дзяржавы канфіскавалі 102 тысячы даляраў, 25 тысяч нямецкіх марак, больш як шэсць кілаграмаў золата, срэбра, плаціны, паладзія, родзія і каля двух кілаграмаў ювелірных упрыгожванняў.

Нядаўна ў Менск былі перададзеныя шэсць новых аўтамабіляў «Toyota» і шэсць «Mercedes», затрыманых на беларуска-польскай мяжы. Машыны былі скрадзеныя ў Нямеччыне, па змове з уладальнікамі, і накіроўваліся для продажу ў Расею. Усе аўтамабілі навюткія, 2000 года выпуску. Некаторыя мелі на спідометры толькі па 20-30 кіламетраў прабегу.

**Юлія Дарашкевіч**

Форма № 20-ФС

УТВЕРЖДЕНО
Приказ Министерства финансов
Республики Беларусь 29 октября 1999 г. № 311

Серия БТ 410851 *

КВИТАНЦИЯ К ТАЛОНУ №
02

ИП Кпаченков Г.Г.
полное наименование предприятия

УНН 500592527
500592527

ул. Пушкина, г. Слоним

услуги сто пятьдесят руб
наименование товара, работ, услуг

1 с
количество, цена за единицу, сумма

Ставка НДС ____%. Сумма НДС ____ руб.

Сумма с НДС сто пятьдесят руб.
прописью

2 Апреля 2001 г.

ГОУПП "ГТ", з. 849"т"

# Грошы не пахнуць!

**150 беларускіх рублёў - столькі каштуе наведванне прыбіральні, якая месціцца на тэрыторыі лідскага аўтавакзала. Гэта ў два разы даражэй, чым, скажам, кошт аднаведнай паслугі на менскім аўтавакзале. Аднак, выбару ў пасажыраў, якім захацелася «да ветру» менавіта ў Лідзе, няма. Вось і плывуць «туалетныя» грошы ў кішэню слонімскаму прадпрымальніку Кпачанкову ракою.**

**Праўда, у выпадку з чалавекам, які паведаміў ПАГОНІ пра гэтую дарагую паслугу, спадару Кпачанкову давядзецца падзяліцца з дзяржавай. Пад націскам нашага чытача «каралева прыбіральні» неахвотна запоўніла квіток на прыём грошай. Астатнім, у лепшым выпадку, выдаваўся толькі невялікі кавалачак туалетнай паперы...**

# Лётайце самалётамі!

**Гомельскае дзяржаўнае прадпрыемства «Гомельавія» мае намер адкласці пачатак рэгулярных рэйсаў па маршруту Гомель - Менск - Гродна як мінімум да 20 красавіка. Пра гэта трэцяга красавіка паведаміў дырэктар прадпрыемства Валерый Кулакоўскі.**

Аднаўленне палётаў па гэтаму маршруту было запланаванае на 13 красавіка. З гэтага дня паміж трыма гарадамі тры разы на тыдзень павінны былі курсіраваць самалёты АН-24. Паводле словаў Кулакоўскага, гомельскія лётчыкі гатовыя да палётаў, аднак не прапрацавана маркетынгавая складаючая праекта - дагэтуль не зацверджаныя тарыфы на білеты; значыць, немагчыма рэкламная кампанія. Дырэктар прадпрыемства лічыць, што пакольні гэты сацыяльны праект заранёў стратны, распачынаць яго рэалізацыю пры наяўнасці такіх недапрацовак бессэнсоўна.

Мы павінны не толькі аднавіць палёты, але і зрабіць так, каб не даваялося іх спыняць праз пару тыдняў, - заявіў Валерый Кулакоўскі.

Таму, лічыць ён, адтэрміноўка пачатку рэалізацыі праекта - аптымальнае рашэнне ў гэтай сітуацыі.

**Ірына Шанцава**

# Укладчыкі «БелБалтыі» хочуць адваяваць свае грошы

**2-га красавіка ва ўпраўленне юстыцыі Менгарвыканкама пададзеныя для рэгістрацыі заснавальчыя дакументы грамадскага аб'яднання «Укладчыкі «БелБалтыі». Аб'яднанне ствараецца паводле ініцыятывы пацярпелых укладчыкаў банка «БелБалтыя» і юрыстаў грамадскага аб'яднання «Праравая дапамога насельніцтву».**

Мэта стварэння арганізацыі ўкладчыкаў - пабудова прававодй дзяржавы і абарона сацыяльна-эканамічных правоў грамадзянаў, сярод першачарговых задачаў - дапамога ўкладчыкам неплацежаздольных банкаў у вяртанні ўкладзеных сродкаў. Сябрамі арганізацыі могуць быць як фізічныя, гэтак і юрыдычныя асобы - крэдыторы банкаў, а таксама спецыялісты ў галіне права і эканомікі, здольныя садзейнічаць дасягненню мэтаў і задачаў, што стаяць перад грамадскім аб'яднаннем.

Як паведамілі прадстаўнікі аб'яднання «Праравая дапамога насельніцтву», 31 сакавіка на плошчы Бангалор у Менску прайшоў мітынг, прысвечаны праблемам укладчыкаў «БелБалтыі», на якім прысутнічалі каля 500 чалавек. На мітынг прыбылі пацярпелыя ўкладчыкі з Брэста, Гродна, Пінска, Гомеля, Салігорска, Барысава ды іншых гарадоў рэспублікі. Сходам укладчыкаў быў прыняты зварот да кіраўніка дзяржавы з прапановай выплаціць уклады да дня прэзідэнцкіх выбараў. Быў таксама абраны камітэт крэдытораў, які можа выконваць функцыі знешняга кіраўніка банка «БелБалтыя» разам з прадстаўніком, прызначаным кіраўніком дзяржавы і гаспадарчым судом.

Варта зазначыць, што з 15 запрошаных на мітынг прадстаўнікоў дзяржаўных органаў на мітынг ніхто не з'явіўся.

# Цяпер даляры можна купляць без абмежаванняў

**Чарговыя меры па далейшай лібералізацыі валютнага рынку і ўдасканальванні валютна-абменных аперацыяў прадпрыняў Нацыянальны банк Беларусі.**

Як паведамілі ў Нацбанку, праўленне галоўнага банка краіны зняло абмежаванні для насельніцтва па суме замежнай валюты, што набываецца ў абменных пунктах і касах банкаў. Раней, як вядома, памер гэтай сумы вызначаўся для аднаго пакупніка ў эквіваленце 300 даляраў ЗША.

Акрамя таго, з 5-ці тысячаў да 20-ці тысяч даляраў ЗША павялічаны ў разліку на аднаго рэзідэнта аб'ём здзелак куплі-продажу на працягу каляндарнага месяца на пазабіржавым валютным рынку.

**Аляксей Арэшка**

# Фарпост праваслаўя ўмацоўваюць

**З рэспубліканскай уласнасці ва ўласнасць Жыровіцкага Свята-Успенскага мужчынскага манастыра і Мінскай духоўнай семінарыі бязвыплатна перададзены будынак вучэбнага корпусу Жыровіцкага аграрна-тэхнічнага каледжа, размешчанага ў пасёлку Жыровічы Слонімскага раёна Гарадзенскай вобласці.**

У пастанове ўрада зазначаецца, што змена ўласнасці ажыццёўлена паводле прапановы Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, падтрыманай міністэрствамі фінансаў, эканомікі, па кіраванні дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі, а таксама Гарадзенскім аблвыканкамам. Апрача таго, дакумент прадугледжвае перадачу манастыру жывёлагадоўчай фермы Жыровіцкай занальнай дзяржаўнай сортавыпрабавальнай станцыі, размешчанай у вёсцы Прусаўшчына Слонімскага раёна. Савет Міністраў даручыў Міністэрству сельскай гаспадаркі і харчавання сумесна з Жыровіцкім аграрна-тэхнічным каледжам і Камітэтам па дзяржаўнаму выпрабаванню і ахове гатункаў раслінаў пры Мінсельгасхарчы да першага красавіка 2001 года зрабіць перадачу-прыёмку будынка і жывёлагадоўчай фермы. Нагадаем, што восенню 2000 года пастановай урада манастыру быў перададзены будынак былога інтэрната каледжа.

Як паведамілі ў прэс-службе Беларускай праваслаўнай царквы, у 1989 годзе пачалася перадача Менскай духоўнай семінарыі карпусоў каледжа (раней - Жыровіцкага сельскагаспадарчага тэхнікума, які размяшчаўся ў гістарычных карпусах семінарыі). Цяпер гэты працэс завяршаецца перадачай будынка вучэбнага корпусу. Пры гэтым неабходна ўлічваць, што ў Жыровічах таксама часова размяшчаецца Менская духоўная акадэмія, будучыя карпусы якой, узведзеныя побач са сталічным Свята-Духавым кафедральным саборам, стануць часткай духоўна-асветнага комплексу. У сувязі з тым, што гэтае будаўніцтва зацягваецца, праблема пражывання і навучання слухачоў духоўных навучальных установаў у Жыровічах з'яўляецца адной з самых надзённых. Разам з тым працягваюцца рэстаўрацыйныя работы на шматлікіх аб'ектах манастырскага комплексу - помніка архітэктуры барока XVII - XIX стагоддзяў.

**Марат Гаравы**

# РЭКЛАМА Тэлефоны: (0152) 72-29-96, 72-37-14




### ПРАДАЮ

Драўляны дом у в.Касцевічы (2 км ад Ваўкавыска). Танна. Тэл. у Ваўкавыску 5-16-52.

Дом з выгодамі ў в.Івацэвічы. Тэл. (8-01645) 2-22-15.

Капот для а/м «Ford Sierra». Вельмі танна. Тэл. 2-65-60.

Кузаў М-412, запчасткі матора М-408. Тэл. 33-12-84 (пасля 18.00).

Рухавік і задні мост М-412 у добрым стане ды іншыя запчасткі. Тэл. 74-37-16.

3-пакаёвую кватэру і гараж у г.п.Воранава. Тэл. 5-12-15.

Фотаапарат «Зеніт», фотаўспышку «СЭФ-3М», электрапліту «Мечта-15», электрамясарубку (усё новае); а таксама ўзмацняльнік «Вега 50У-422С», пральную машыну «Рыга-17» (усё б/у). Тэл. 76-31-80.

Халадзільнік «Мінск-11, б/у, у добрым стане, з гарантыяй на год. Тэл. 72-81-08.

Халадзільнік «Мінск-16Е» ў добрым стане. Танна. Тэл. 72-55-43.

ПК IBM 286: VGA, два дыскаводы, два вінчэсцеры (кошт - 75 у.а), каляровы тэлевізар «Гарызонт» (кошт - 70 у.а). Тэл. 33-37-77.

Шыкоўны вясельны строй (танна), жаночы плашч (памер 46-48), электрапрывад да швачнай машыны. Тэл. 76-46-53 (у любы час).

Вясельны строй з вэлюмам і вяночкам, або здаю напракат. Вельмі танна. Тэл. 71-02-19.

Новы жаночы скураны пінжак на маланцы (памер 42-44). Тэл. 5-78-62.

Тавары вытворчасці ЗША: кашулі, кофты, штаны, касцюмы, абутак, галантарэю. Тэл. 6-83-19.

Насценны дзіцячы дыван (138х100 см). Тэл. 33-84-32.

Паліраваную 3-секцыйную блок-сценку 260х190. Тэл. 6-46-65.

Раздзяляльнік паралельных тэлефонных ліній, без праслухоўвання, з перааддасоўкай гудкоў, унутранай сувяззю. Тэл. (017) 253-14-47.

Козаў з казлянятамі. Тэл. 72-77-25.

Малочных бязрогіх козаў. Звяртацца на адрас: в.Абуховічы, д.30.

Ровар (б/у) для дзяцей 12-ці гадоў. Кошт - 20 у.а. Тэл. 72-07-40.

### КУПЛЮ

Кухонны камбайн «Мрыя-2» на запчасткі. Тэл. 91-76-41.

Тры-чатыры машыны чарназёму альбо торфу. Тэл. 72-70-60.

Футбольныя сувеніры краінаў СНД (шалікі, значкі ды інш.). Танна. Тэл. 76-41-58.

Глушыльнік з нержавейкі, адбівальнік («отражатель») пярэдняй фары, заднее шкло паваротаў, рашотку радыятара да «Масквіча-2140». Тэл. 5-43-73 (пасля 17.00).

2-пакаёвую кватэру новай планіроўкі на 2-4 паверсе. Тэл. 72-39-48 (з 9.00 да 18.00, паклікаць Віктара).

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

Слоўнікі, падручнікі па балгарскай, ангельскай, беларускай, нямецкай, польскай, чэшскай мовах. Тэл. 2-85-77.

Чэк або аблігацыю на аўтамабіль (БАМ, Якуцію) для калекцыі. Дорага. Тэл. у Барысаве (8-01777) 4-42-01.

Металічную цяпліцу памерам 3х6 метраў. Тэрмінова. Тэл. 47-21-56.

### МЯНЯЮ

Прыватызаваны пакой (17,2 кв.м) на кватэру альбо пакой. Тэл. 2-03-39 (запрасіць Алу).

2-пакаёвую прыватызаваную кватэру ў добрым раёне Гомеля (жылая плошча - 34,5 кв.м, асобныя пакоі) на кватэру ў Гродне. Тэл. у Гродне: 78-25-70, у Гомелі: 56-29-55.

### ПАСЛУГІ

Распрацуем ЛЕСАСЕКУ. Тэл. (8-214) 3-62-29. Ліцэнзія N1257 ад 24.03.2001 года, выдадзеная Мінсельгасам.

**ДОКТАР СЯРГЕЙ УЛАДЗІМІРАВІЧ КАЛЯДА**
Інтэнсіўная псіхатэрапія АЛКАГАЛІЗМУ, ЗАЛІШНЯЙ ВАГІ, КУРЭННЯ. Найноўшыя методыкі.
Тэл. 74-35-46 да 18.00
(Ліц. N796 да 2004 года, МЗ РБ).

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па метадыцы Р.Фоля. Ліц.МЗ РБ N224 да 30.12.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

Абарона ў Гаспадарчым судзе. Ліц. МА N932 ад 26.12.2000 года. Тэл. 33-68-47.

Рэпетытарства па матэматыцы, школьны курс. Тэл. 72-22-77.

Французская мова: кантрольныя работы і пераклады (хутка), індывідуальныя заняткі. Тэл. 31-50-58.

Лячэнне ў ТДА «Наркотер» метадам кадзіравання ад алкагальнай залежнасці, залішняй вагі ды тытунекурэння кожную суботу па адрасу: г.Гродна, вул. Ажэшка, д.30, пакой 30 (Дом афіцэраў) з 9.00 да 10.30. Даведкі па тэлефонах: 33-74-54, 31-61-28. Ліц. N449 МЗ РБ да 14.10.2002 года.

Рэпетытарства па ангельскай мове. Дасведчаны высокакваліфікаваны педагог. Тэл. 72-62-79.

Французская мова: пераклады, кантрольныя работы, рэпетытарства. Тэл. 31-44-74 (пасля 19.00).

Кантрольныя па лацінскай, рускай, стараславянскай мовах, па гісторыі рускай літаратурнай мовы. Тэл. 33-69-28.

Рэпетытарства, кантрольныя па матэматыцы і фізіцы. Тэл. 72-58-53.

Польская, балгарская і беларуская мовы. Тэл. 2-85-77.

Рэпетытарства па ангельскай і нямецкай мовах. Пераклады. Тэл. 6-12-71 (пасля 18.00).

Ангельская мова для ўсіх. Тэл. 76-38-02.

Усё па беларускай, ангельскай і лацінскай мовах. Тэл. 33-21-83.

Ангельская мова: рэпетытарства, пераклады. Тэл. 74-32-77.

Відэаздымка. Якасна, прафесійна выканаем работы па стварэнні відэафільма, відэакліпа, рэкламнага роліка. Ліц. МК N613 да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Звяртацца: 231900, Гарадзенская вобласць, г.Ваўкавыск, а/с 17. Тэл. 2-34-86.

Відэаздымка вяселляў, вянчанняў, хрышчэнняў, юбілеяў, раніштікаў, выпускных вечароў. Камп'ютарная апрацоўка. Ліц. 499 МК РБ. Тэл. 6-07-25.

Рамонт пыласосаў усіх тыпаў з гарантыяй. Выраб шматразовых фільтраў да імпартных пыласосаў. Ліц. N02645 да 2004 года. Тэл. для даведак: 6-45-74.

Сканаванне, раздрукоўка на фотапрынтары, фотамантаж. Танна. Устаноўка праграмаў на камп'ютар, дапамога пры набыцці ПК, рэпетытарства. Тэл. 31-07-48 (запрасіць Віктара).

### РОЗНАЕ

Здаю кватэру на суткі. Тэл. 72-07-70.

Здаю кватэру на суткі. Тэл. 72-07-40.

Здыму 1-пакаёвую кватэру з тэлефонам (можна без мэблі), у раёне вуліцы Гая, Пестрака, Кляцкова і г.д. Тэл. 6-34-61.

Замаўляйце і чытайце «Голас Краю» - газету беларускіх нацыяналістаў. Звяртайцеся на адрас: 230003, горад Гродна, а/с 100.

Новы выбар на «Выставе аўдыё-відэа-кнігапрадукцыі», што знаходзіцца ў Гродне па вуліцы К.Маркса,11 (другі паверх). Выстава працуе кожныя панядзелак і сераду з 17.00 да 20.00 гадзін.

Просьба да грамадзянаў, якія маюць фінансавыя прэтэнзіі да Жанны Казіміраўны Рассолькі, звяртацца да В.Саковіча ў Ленінскі РАУС ці на адрас: вул.Тэльмана,9, пакой 29. Тэл. 79-74-18 (у прац.дні, з 9.00 да 18.00).

Грамадзянам, якія маюць фінансава-прававыя прэтэнзіі да В.А.Шляхціна, што пражывае па адрасу: г.Віцебск, Маскоўскі праспект 21-4-714, звяртацца ў пракуратуру Першамайскага РАУСу г.Віцебска.

Гарадзенскае грамадскае аб'яднанне аховы жывёлаў «Дабрыня» аддае ў добрыя рукі сабакаў, шчанюкоў, катоў і кацянятаў. Тэл. 44-02-47, 33-11-80.

### ЗНАЁМСТВЫ

Мужчына, 43/178, пазнаёміцца з жанчынай для сяброўскіх зносінаў, магчымы шлюб. Прафесія творчая, матэрыяльных і жыллёвых праблемаў няма. Пісаць: 231900, Гарадзенская вобласць, г.Ваўкавыск, Галоўпаштамт, а/с 9.

Стройная ўдава, 43/168, пазнаёміцца з прыстойным мужчынам для сур'ёзных адносінаў. Пісаць: 230026, г.Гродна, да запатрабавання, прад'яўніцы пашпарта 1-ДР N 503167.

Мужчына, 45/174, пазнаёміцца з прыстойнай жанчынай для сур'ёзных адносінаў. Пісаць: Гродна-9, а/с 105.

Дзяўчына, 24/165, жадае пазнаёміцца з надзейным і самастойным маладым чалавекам да 32 гадоў для сур'ёзных зносінаў. Пісаць: 230027, Гродна-27, а/с 22.

### ВІНШАВАННІ

*Дзіма!* З Днём народзінаў! Няхай табе шанцуе! Але жыццё - не толькі праца, і я па-новай набіраю ачкі. Ура! 1:0.

**З найлепшымі пажаданнямі, Юка**





**ПАГОНЯ** купон прыватнай бясплатнай аб'явы

14 Імя і прозвішча ____________

Адрас (тэлефон) ____________

Рубрыка ____________

Тэкст ____________

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

**Купон з тэкстам адпраўце на пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11**

Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні, альбо пакідаць наступную інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...»; ці прыходзіць у рэдакцыю з купонам аб'явы і сваім пашпартам.



## Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». **Новы замак.** Экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў». Круглая зала. Выстава «Вобразы далёкія і блізкія», прысвечаная 80-годдзю музея. Сенатарская зала. Выстава «Цудоўны свет галаграмаў» (апошні дзень работы выставы - 29 красавіка). Экспазіцыя «Новыя набыткі»: жывапіс, графіка, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва сучасных беларускіх мастакоў.

**Галерэя «У Майстра» (Кірава,8).** Выстава карыкатураў Алега Курпіка «Незразумелае - смешнае», прысвечаная міжнароднаму Дню гумару.

**Галерэі «Тызенгаўз».** Выстава працаў маладых мастакоў Дар'і Яскевіч, Уладзіміра Скамарошчанкі ды Вольгі Бухоўкі.

**Дызайн-галерэя «Раскоша» (вуліца Ажэшкі,39а).** Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Выхадныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Лядовы палац спорту.** Катанне на льду: кожны аўторак - з 20.30 да 21.30, кожную нядзелю - з 17.00 да 18.00. Кошт квітка для дарослых - 1000 рублёў, для дзяцей - 500 рублёў.

9 красавіка ў 19.00 - **Лайма Вайкуле** ў новым экстравагантным шоу «XXI стагоддзе з любімымі...».

**Дом афіцэраў.** Дзейнічае выстава Санкт-Пецярбургскага музея васковых фігураў пад назвай «Мутанты». Працуе штодзённа, без перапынку і выхадных, з 10.00 да 19.00. Кошт квіткоў для дарослых - 1500 рублёў, для школьнікаў і студэнтаў - 1000 рублёў.

6 красавіка - заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь **Алег Цівуноў** і яго шоу "Для недасведчаных дзяўчатаў і цікаўных жанчынаў..." у суправаджэнні інструментальнай групы і шоу-балета. Пачатак у 19.00.

**Тэатр лялек.** 7 красавіка ў 12.00 - «Казка вандроўнага лялечніка». 8 красавіка ў 12.00 - «Пагуляем з Віні-Пухам». 10, 11, 12 красавіка - спектакль «Пагуляем з Віні-Пухам». Пачатак - у 10.00 і 12.30.

**Моладзевыя дыскатэкі**

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00, працуе кафэ-бар (серада - нядзеля).

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**«Калізей-2000».** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальныя і стрыпціз-шоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.

**Начны клуб «Казанова».** Працуе з серады па нядзелю з 22.00 да 05.00. Па суботах - шоу-праграмы.

# Выбар - паміж «Нёманам» і «Славіяй»

**Да адсутнасці зменаў у складзе гарадзенскага футбольнага клуба «Нёман-Белкард» у міжсезонні заўзятары ўжо прызвычаіліся. Таму навіна пра тое, што Дзмітрый Раўнейка і Віталь Тарашчык (калі да старту чэмпіянату засталося шэсць дзён) маюць намер пакінуць «Нёман», выглядае як гром сярод яснага неба. Тым больш, што яны з'яўляюцца і футбалістамі моладзевай зборнай Беларусі. Карэспандэнт ПАГОНІ ўзяў інтэрв'ю ў аднаго з «аўтараў» гэтага скандалу - Дзмітрыя Раўнейкі.**

***- Дзіма, у Вас ужо скончыўся кантракт з «Нёманам». Якую тады Вы падавалі заяву ў Беларускую Федэрацыю футболу?***

- Я не падаваў заяву аб скасаванні кантракта. Таму што, сапраўды, кантракт ужо ў мяне скончыўся. Гэта была заява аб прэтэнзіях да футбольнага клуба «Нёман-Белкард» наконт запазычанасці клуба па кантракту перада мной. На сённяшні дзень клуб са мною ўжо разлічыўся.

Зараз я трэніруюся з «Нёманам-2» і сказаць, у якім клубе пачну чэмпіянат, пакуль немагчыма.

***- Як у гэтай сітуацыі паводзіць сябе кіраўніцтва «Нёмана-Белкарда»?***

- Кіраўніцтва нашага клуба ўжо прапанавала мне новы кантракт. Але я пакуль не спяшаюся яго падпісваць. Мною былі прад'яўленыя патрабаванні, праверце, даволі сціплыя. І калі клуб здолее з імі пагадзіцца, верагодна, падпішу новы кантракт тэрмінам на год ці паўгода.

***- Праўда, што Вамі цікавіцца «Славія»?***

- Са мною падтрымліваюць сталыя кантакты прэзідэнт і віцэ-прэзідэнт мазырскай «Славіі», якія выяўляюць да мяне і Віталія Тарашчыка вялікую зацікаўленасць. У нас ужо ёсць іх прапанова наконт супрацоўніцтва са «Славіяй» на значна больш выгадных умовах, чым я маю цяпер.

***- Што стрымлівае?***

- Хочацца яшчэ трохі пагуляць у Гродне ў сваім родным клубе. Ды і досведу набрацца.

***- І усё ж такі, якая верагоднасць таго, што Вы застанецеся ў «Нёмане-Белкардзе»?***

- Пакуль 50 на 50. Усё павінна вырашыцца сёння-заўтра.

**Што датычыць Віталя Тарашчыка. Другога сакавіка бюро выканкама БФФ разглядала заяву Віталя аб скасаванні кантракта ў сувязі з невыкананнем клубам «Нёман» яго ўмоваў, і вырашыла справу станоўча для гарадзенца.**

**Цяпер футбалісты чакаюць, ці здолее кіраўніцтва «Нёмана» знайсці неабходныя сродкі, каб затрымаць іх у Гродне. Калі не знойдзе, тады гарадзенцы апынуцца ў Мазыры.**

**Тым часам, «Нёман-Белкард» знаходзіцца на зборы ў польскім горадзе Вангровец. Там яны згулялі дзве таварыскія гульні: у першай - перамаглі каманду «Нэльба» (Польшча, Д4) - 7:0 (галы на рахунку Палякова, Кітуркі, Траскевіча, Жыруна і Кірэні); у другой - прайгралі магілёўскаму «Дняпру-Трансмашу» 2:1 (Давыдаў).**

# 42 перамогі ў 42-х гульнях

**Праз дзень пасля адборавага туру ПЕБЛ гарадзенская баскетбольная каманда «Гродна-93» скончыла сваё выступленне і ў нацыянальным рэгулярным чэмпіянаце. Надалей каманды ў гульнях плэй-оф пазмагаюцца за залатыя ўзнагароды.**

На працягу ўсяго рэгулярнага чэмпіянату мінулагодні чэмпіён «Гродна-93» не даў ні разу ўсумніцца ў сваёй перавазе над супернікам, атрымаўшы 42 перамогі ў 42-х гульнях. Дастаткова нагадаць, што 93-я перамаглі каманду «РТІ», якая заняла другое месца, з мінімальнай перавагай у гульнях чэмпіянату ажно ў 17 ачкоў. Няма што казаць пра астатніх.

Вось і ў дзвюх апошніх сустрэчах «Гродна-93» без асаблівых намаганняў перамагла пятую каманду чэмпіянату «Аўтазаводзец-Джэнці» - 88:50. Самымі выніковымі ў гарадзенцаў былі Юрый Качан і Арсеній Бяссмертны (па 18 ачкоў), Пынцікаў - 10. Трэцюю каманду чэмпіянату «Спартак-Кандытар» гарадзенцы адолелі з лікам 119:65.

Праўду кажучы, на гульню ў Гродна прыехаў другі склад «Спартака». Таму мы не здолелі ўбачыць супрацьстаянне лепшых снайпераў: чэмпіянату - Уладзіміра Верамеенкі і «Гродна-93» - Алега Квашчука. Алег набраў 22 ачкі, болей - толькі Сафронаў (23 ачкі), і застаўся лепшым снайперам гарадзенцаў у рэгіянальным чэмпіянаце.





Па выніках рэгулярнага чэмпіянату, супернікам «Гродна-93» у чвэрцьфінале з'яўляецца гомельскі «Сож». Гульні адбыліся трэцяга-чацвёртага красавіка і працягнуцца да дзвюх перамог адной з камандаў. Астатнія пары 1/4 складаюць «Спартак-Кандытар» - «Лакаматыў-КіС», «РШВСМ-БДзПА» - «Аўтазаводзец-Джэнці», і «РТІ» - «Тэмп-АШВСМ». «РТІ» ўжо двойчы абыграў «Тэмп-АШВСМ» і стаў першым паўфіналістам.

| | Каманды | Выйгрышы | Паразы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Гродна-93 | 42 | 0 | 84 |
| 2 | РТІ | 29 | 13 | 71 |
| 3 | Спартак-Кандытар | 26 | 16 | 68 |
| 4 | РШВСМ-БДзПА | 26 | 16 | 68 |
| 5 | Аўтазаводзец-Дж. | 21 | 21 | 62 |
| 6 | Лакаматыў-КіС | 10 | 32 | 52 |
| 7 | Тэмп-АШВСМ | 8 | 34 | 50 |
| 8 | Сож | 6 | 36 | 47 |

**Заўвага:** 1. З «Аўтазаводца» і «Сожа» знята па аднаму ачку за тэхнічную паразу. 2. «Спартак-Кандытар» стаіць у табліцы вышэй як РШВСМ-БДзПА за кошт лепшых паказчыкаў у вочных сустрэчах.

## КАЛЕЙДАСПОРТ

## Чэмпіянаты Беларусі

### Баскетбол, жанчыны

Паўфінал, чацвёртая гульня

**«Алімпія»** (Гродна) - **«РШВСМ-Гарызонт»** - 69:57 (19:13, 15:17, 16:10, 19:17) (Шуплякова - 22, Панасюк - 14, Курсевіч - 11, Гапонава - 10). Вынік серыі - 3:1.

7 красавіка **«Алімпія»** гуляе ў Барысаве з **«Бярэзінай»** першую фінальную гульню. Фінальная серыя будзе доўжыцца да трох перамог.

### Хакей, мужчыны

**«Гомель»** (Гомель) - **«Нёман»** (Гродна) - 2:1(0:1 - Варывончык, 9-я хвіліна).

**«Нёман»** - **«Палімір»** (Наваполацк) - 6:3 (Мінін - 4-я хвіліна; Пячонкін - 8,22; Калмычкоў - 18,51; Жданаў - 60).

*Пасля паразы «Менска» ад «Гомеля» «Нёман» датэрмінова стаў чэмпіёнам Беларусі.*

**Дзяніс Курчэўскі**

# Вось пакурыў дык пакурыў!

**Паводле звестак абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях, за апошні тыдзень сакавіка было каля сямідзесяці выездаў супрацьпажарных брыгадаў на пажары.**

Пяць чалавек загінула. Асноўнай прычынай застаецца неасцярожнае абыходжанне з агнём людзей у нецвярозым стане. Жыхар адной з вёсак Дзятлаўскага раёна пасля зарплаты гуляў два дні, пакуль не быў знойдзены ў тлеючым сене без прыкметаў жыцця. 47-гадовая аматарка выпіць і пакурыць з вёскі Падліпяны Астравецкага раёна загінула ў хаце, ахопленай агнём.

Аднак ёсць і кур'ёзныя выпадкі. У вёсцы Сушышкі Воранаўскага раёна шасцігадовы сын гаспадароў любіў пакурыць (!) за хлявом. Двойчы ён такім чынам ужо падпальваў салому. А на трэці раз згарэла салома, хлеў і ўся жывёла ў ім - тры свінні, конь, цяля і карова.

Увесну, колькі ні папярэджваюць пажарнікі пра непяспеку выпальвання травы, яе ўсё роўна паляць. Сёлета ў 73-х зарэгістраваных выпадках выпальвання травы ўжо згарэла тры дамы і восем пабудоваў.

А ў суботу, 31 сакавіка, пасярод белага дня адбыўся пажар на Скідальскім рынку Гродна. Загарэўся блок з трох крамаў: крама рытуальных паслуг, прадуктовы магазін ад калгаса «Абухава» і крама ад берасцейскага панчошнага камбіната. Згарэла 250 квадратных метраў даху і частка тавар з крамы рытуальных паслуг. Прычынай пажару стала каротакае замыканне кабеля халадзільніка. Хлопцы з Упраўлення па надзвычайных сітуацыях выратавалі непрытомную прадаўшчыцу: тая выносіла тавар (панчохі, шкарпэткі) з задымленай крамы, стукнулася галавою аб прылавак і страціла прытомнасць. Пажарнікі вынеслі жанчыну на руках, аказалі першую медычную дапамогу.

Наогул, тыдзень для пажарнікаў Гродна неблагі: у горадзе не было буйных аварыяў, не было чалавечых ахвяраў.

**Алена Сіневіч**

# Красавік чакаецца цяплейшы за норму

**Красавік - цэнтральны веснавы месяц. У красавіку хутка павялічваецца дзень, і сонейка ўсё вышэй падымаецца над гарызонтам.**

Перадапошні вясенні месяц характарызуецца павелічэннем прытоку сонечнай радыяцыі, падвышэннем сярэднямесячнай тэмпературы ў параўнанні з сакавіком на сем-восем градусаў па Цэльсію. Сярэднямесячная тэмпература паветра складае чатыры-сем градусаў цяпла. Аднак у асобныя гады яна можа заўважна адхіляцца ад нормы.

Вельмі халодным быў красавік 1955 года. Сярэдняя тэмпература паветра за месяц была тады на два-тры градусы ніжэй за норму. Самым цёплым за апошнае стагоддзе быў красавік 2000 года, калі сярэднямесячная тэмпература паветра па Гарадзенскай вобласці склала +11...+12 градусаў, што на пяць-шэсць градусаў вышэй за норму.

Падвышэнню тэмпературы садзейнічае і цёплы паўднёвы вецер (адна з характэрных асаблівасцяў сезону, што паскараюць развіццё вясновых з'яваў у ходзе надвор'я і ў жыцці ўсёй прыроды). Пераход сярэдній сутачнай тэмпературы паветра цераз +5 градусаў бывае 10-14 красавіка. Апасля пачынаецца «батанічная вясна» - ўзнаўляецца вегетацыя драўнінай раслінанасці (ці траваў).

Хаця неба ў красавіку ясней, чым у сакавіку, але ўсё ж вільготнае паветра, што ідзе з Атлантычнага акіяна, даволі часта прыносіць пахмурнае з ападкамі надвор'е. Таму значная частка сонечнай радыяцыі затрымліваецца аблокамі.

У красавіку павялічваецца колькасць ападкаў (у параўнанні з зімовымі месяцамі і з сакавіком). Ападкі выпадаюць у выглядзе дажджоў, больш інтэнсіўных, але і больш кароткачасовых. Пачынаюцца веснавыя праліўныя дажджы і навальніцы. Верагоднасць замаразкаў у красавіку складае 95 працэнтаў. Ноччу тэмпература паветра бывае 0...+3 градусы, удзень +8...+12 градусаў па Цэльсію. Замаразкі звычайна спыняюцца па поўдню рэспублікі ў трэцяй дэкадзе красавіка, у цэнтральных раёнах - у першай, а ў паўночных - у другой дэкадзе траўня. Замаразкі **ж на глебе назіраюцца яшчэ** адзін-два тыдні пасля іх знікнення ў паветры.

Адпаведна прагнозу Гідраметцэнтра, у красавіку бягучага года сярэднямесячная тэмпература паветра чакаецца на 1 градус вышэй за норму (норма +4...+7 градусаў). Месячная колькасць ападкаў мяркуецца каля нормы (норма 30-51 мм).

**С.Брэйда,**
**начальнік аддзела гідраметзабеспячэння народнай гаспадаркі Гроднааблгідрамета**

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Больш адпачывайце. Вам трэба аднавіць сілы. Завітайце ў культурныя і забаўляльныя ўстановы: падатковую інспекцыю, стаматалагічны кабінет... Не, відаць, не той спіс прапаноўваю. Канечне, у тэатр, кіно, цырк і на выставы.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Хутчэй, пакуль не позна, выкіньце з галавы усе думкі пра грошы. У Вас такая здольнасць па ўсіх пытаннях дамовіцца і без нікчэмнага металу!

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Вы адчуеце сапраўдны поспех на любоўным фронце. Сны з суботы на нядзелю абяцаюць быць прарочымі.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Вам неабходна мець бездакорны знешні выгляд, каб новыя партнёры прасякліся даверам і павагаю да Вас. Беражлівей стаўцеся да сваіх даходаў.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Калі Ваша галава нагам спакою не дае, дык ногі ў рукі - і на новую працу. Новыя кантакты прынясуць Вам толькі поспех.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Вас увесь час будзе цягнуць у самую гушчыню падзеяў. Уікэнд можа стаць адным з самых рамантычных на гэтым тыдні.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Вам не пашкодзіць кантраляваць свае эмоцыі, каб пазбегнуць эмацыйнага зрыву і не страціць энергетыку.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** У зносінах з партнёрамі Вы - проста маг і чараўнік(-ца). А вось у грашовых здзелках - на жаль... Але хутка справы пойдуць угору.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Перачакайце нерыемнасці, абяцаныя зоркамі, дзе-небудзь: у кавярні альбо на кухні ў кагосьці з сяброў. Далёкія паездкі лепей пакуль адкласці.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Паспрабуйце дастаць як мага больш з альпінісцкага рыштунку і дапамагчы Вашым справам дасягнуць вяршыні.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Апранайцеся, зважаючы на веснавое надвор'е. Сны, што патрывожаць Ваш спакой у пятніцу і нядзелю, не збудуцца.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Знайдзіце час для свайго творчага перавтварэння, каб незадавальненне сабою не пашкодзіла Вашым адносінам з каханым чалавекам.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

**Адрас рэдакцыі:**
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: **63124.**

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня»
Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 4.04.2001 г.
Замова 1089 Наклад 8155

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар **Мікола Маркевіч**

Камп'ютарны набор: **Аксана Бурдзюк,**
камп'ютарная вёрстка: **Аляксей Салей**